* * *

Танцаваў залаты журавель
У праменях сонца вячэрняга
І ўяўляў, як з вакольных зямель
Выступаюць жураўкі чэргамі,—

Да яго, да яго, да яго:
Выбірай! — ідуць на агледзіны...—
Гэтак мроіў стары ветрагон:
Безліч іх — і ён пасярэдзіне!

А сярэдзіна — гэты ставок
Пад імшарнаю купкай лазоваю,—
І ці ў той, і ці ў гэты бок —
Толькі пустка — асушанай зонаю...

Так скакаў журавель і скакаў,
Як заведзены туга спружынаю,
Покуль я неўспадзеў наблукаў
На яго донкіхоцтва птушынае.

Супыніўся і ён неўспадзеў.
Журавінавым вокам з пагрозаю
На мяне паглядзеў — і ўзляцеў,
Як прамовіў: «Ходзяць тут розныя...»

* * *

У тое лета чад гарачыні
I лёсы, і нябёсы затуманьваў,
I спусташэнні на зямлі чыніў,
I смажыў карасёў у тлустай твані.

У тое лета я за крокам крок
Сваё жыццё былое перакрэсліў.
У тое лета я даваў зарок
На д'ябальскі кірмаш не лезці з песняй.

Натоўпам, звар'яцелым ад бяды,
Пабанкаваць — ніжэйшая з абмціцый,—
Лепш паднясі сасмягламу вады .
I дай травінцы высахлай напіцца.

## ХЛОПЧЫКУ,
## ЯКОМУ СПОЎНІЛАСЯ
## ТРЫ ГАДЫ

Твая душа святая —
Смяешся ты ці плачаш —
Прыносіць вестку рая
Нам, грэшным і лядачым.

Прыносіць нам збавенне
Ад помыслаў бязбожных
Твой дух — як дзень тварэння,
Ахоўны і трывожны.

І сэрца маладзее
На нейкую хвіліну,
Якую безнадзейным
Твой добры Бог пакінуў.

* * *

З пункта А і да пункта Б —
Пяцікласнікам над задачаю —
Як выводзіць, краіна, цябе? —
Мой народ карпее няўдачнікам.

Кабінеты штогод і штодня
Абяцаюць стабілізацыю.
А за ёй — як на фота радня:
Выглядае сталінізацыя.

Бо ўжо так павялося здавён:
Над народам павінны быць сталінцы,
І глядзіць на сталіцу ён,
Нібы двоечнік на настаўніцу.

І нядбайнік ён, і гультай,
Ды яшчэ і гарэлкай разбэшчаны,—
З-за яго і дзяржаўная сталь
І грамадства дае наша трэшчыну...

Хоць не пляскае ў ладкі свет —
Пацяшаецца нашай абноваю
І цікуе, ці вывезе з бед
Perestrojka каўчэгам Ноевым...

З пункта А і да пункта Б,—
Над задачаю пяцікласнікам —
Колькі ж будзе народ гарбець,
Колькі ж мы яму будзем клясціся?..

Стыне кроў... З натхнёных арбіт
Сэрца падае, нібы жаўранак,
Разбіваецца аб граніт —
Камяні панура-дзяржаўныя...

* * *

Вы хочаце мёртвай прасторы,
Пустой, адлучонай ад сілы
Тых душ, што былі нам апорай,
Сусвету разгортвалі крылы?

А я —да магілы схілюся —
І чую дыханне Бога.
І ў небе — душа Беларусі.
І болей — няма нікога.

* * *

Хоць я не Бог, я вам даю свабоду
Ад вечнага, ганебнага ярма,—
Даю вам запавет: няма народа,
Калі агню ў яго душы няма.
Калі ў сусвеце не палае зоркай
Яго прарочы геній — і абы
Чужое літасці прасіць чужой гаворкай,
Тады жывіце на зямлі, рабы!..

* * *

Як жа без Расеі
Жыць на свеце нам:
Без яе — пасеем,
А сажнём — панам?

З ёю — і свабода,
І з людзьмі саюз,
І агульны продак —
Чорна-белы рус.

Як жа нам парозні,
Паасобку як?
На адной дарозе
Свеціць нам маяк.

І Масква — сталіца,
І Сібір — турма,
А свая й не сніцца,
Бо сваёй — няма.

І адны ў нас троны,
І адзін ГУЛАГ,
І адзін — чырвоны —
Над ГУЛАГам сцяг.

Без такой радзімы —
Сэрцам не абняць! —
Мы куды б хадзілі
Ссылку адбываць?

Як жа без падмогі,
Як жа без братоў?..
Кайданы на ногі —
І ў Сібір гатоў.

*  *  *

*Зняверанаму беларусу —*
*на выстаўцы*
*Казіміра Малевіча*

Лёс чорны, як Малевіча квадрат,
Ды роспачы не паддавайся, брат.
У цемнату скалапсаваны свет
Не толькі ёсць мінулага партрэт,
І не адбітак смерці, і не скон,—
Цяжарны новай будучыняй ён.
За мёртвай гранню чорнага капца
Зіяе не канец — канец канца.

* * *

Няма цэнзуры, ды ёсць цэзура,
Калі за горла хапае страх,
Калі пасе нас, нібы кузурак,
Ахоўна-схоўны таемны гмах.

Пасе штодзённа, пасе нядрэмна...
Не чалавекі мы, а спарышы:
Двайнік за харч —' зусім недарэмны —
Прырос да кожнай жывой душы.

І ад дзіцячых амаль пляцовак
Аж да труны — над намі прэс:
«С/с» — сакрэтны супрацоўнік
(Як і ў фашыстаў было: «СС») .

Расце шалёна на факты такса,
Цяпер не «стукаюць» за траякі,—
І тэлетайпы, і тэлефаксы
Бягуць па следзе, як ганчакі.

Цяпер абнюхаюць электронна,
На перфакарту запішуць код:
Ці ты паборнік партыйнага трона,
Ці ты зрабіў дзе лявацкі ход.

Якіх ты генаў, якой ты пробы,
З якіх ідэйных падмуркаў злез...
Хоць і не геній, з асоб асоба,—
Цяпер і я прасвечаны спрэс.

Ці стол хаўтурны, ці стол запойны,
Ці што падумаў у даўкім сне,—
Суперсучасны — паэт у законе:
У электронным ляжу дасье.

## ТРОЕ

Тройка руская нас
Абяцала да сонца вывезці,
Ды акрутлівы час
Не ў той бок грэблю вымасціў.

Потым новая «тройка» была:
Ад зямлі, ад сяла
Нас у даль камунізму вывозіла,
У Сібіры марозіла.

Сёння зноў сабралася трое:
Вараціла чорнага бізнесу,
Што закусвае чорнай ікрою
І даводзіць здзічэлае: «Бі знізу...»
Засядае партыйным Бісмаркам
І паказвае ўніз другі
І падказвае лозунгам: «Бі зверху...»
Трэці — век наш — змывае даўгі,
Прапівае апошні дзесятак,
Хоць ні ў чым і не вінаваты...

І стаіць — як бяздомны — народ,
І пытае — як тысячу год:
— Дзе наш новы начлег,
Дзе наш Ноеў каўчэг?..

* * *

«Аз», «букі» і «ведзі» —
Як гукі нябёс,
Як час з гулкай медзі,
Што ў сэрцах прарос.

Прарос ад Кірылы
З мястэчка Салунь,
Што ўзняў, як Ярыла,
Асветную рунь.

Прарос з першадрукаў —
Скарынавых сноў,—
Прарос для навукі
Славянскіх сыноў.

«Аз», «букі» і «ведзі» —
Малітва святла,—
Каб не ў падсуседзях
Айчына жыла,

Каб розум не мерыць
З чужога пляча,
Не бегчы ў Амерык
Хлеб-соль пазычаць.

«Аз», «букі» і «ведзі»...
Магільшчык карон
Уссеў партмядзведзем
На мудрасці трон:

Любая з навук
Адаб'ецца ад рук,
Як шлях не накрэсліць
Навук палітрук.

«Кароткага курсу»
Падкідыш-бадзяк
Таўчэ беларусу:
Калі, дзе і як...

«Аз», «букі» і «ведзі»,—
Чакайце, браткі,
Мне дайце агледзець,
Адкуль «аз» такі,
Калі — аб'явіцца,
Сказаць: «Гэта — я»,
Дзе — тая крыніца,
Дзе — тая зямля,
Што літару — «букі» —
Вядзе з каранёў
Да кроны навукі,
Да вечных высноў.
Каб ведалі дзеці,
Што «ведзі» — наш дар.
Як ёсць ён, то ў свеце
І ты гаспадар.

«Я», «літара», «веды»
Спрадвечная цвердзь..
Славянская еднасць —
Адзінства і смерць.

Плачу я і плачу,—
Вось крэўнасці кошт.
Гісторыі ўдача
Такая... Ну што ж...

«Аз», «букі» і «ведзі»,
Што ляхі, што русь —
Пачуйце, суседзі:
Жыве Беларусь!

## РЫФМУЮЧЫ СОНЦА...

Заездзілі рыфму паэты:
«Сонца — бясконца»,
Спусцілі разменнай манетай:
«Сонца — старонцы»,
А сёння ўжо тхне трафарэтам
Зжыліся паэты і з гэтай:
«Сонца і стронцый»...

* * *

А што ў цябе, бяроза, на сняданак?
— Самотны ранак, ветрам разгайданы.
— Тады заходзь, папі са мною чаю:
Ён ад адчаю часам выручае...

А што ў цябе, бяроза, на абед?
Усё, што выставіў Чарнобыль на загнет.
— Тады заходзь, глыні са мною кроплю:
У белай, кажуць, чорная патопне...

А што ў цябе, бяроза, на вячэру?
— Чарнобыль зноў і той жа смутак шэры.

— Тады і я цябе не пагукаю,
Бо сам, здаецца, толькі гэта й маю...

## ПРЫКМЕТА

Калі бязгрыбна,
дык і бясхлебна,—
Даводзіць верасень
жніўню ўслед.
І лес зняверыўся:
правіць малебны
А што ні дрэўца —
голы шкілет.

Сухмень высвечвае далягляды,
І шлях — працягнутаю рукой —
Страсае жніўню не зарапады,
А лістапады — лясной луской.

«Ідзе пост новы»,— пастанову
Друкуе дзяцел пра недарод.
Заход барвовы кладзе нервова
Акраец сонца ў бяззубы рот.

## ГАРАДСКІ МАТЫЎ

— Як жыццё?
— Па-добраму дрэнна:
Труны ўжо выдаюць напракат:
Давязуць — і якога там хрэна! —
Лезь гальцом у магільны спрат.

І назад вязуць дамавіну,
Каб другога пакласці ў адвоз.
Далакоп, азвярэлы ў дыміну,
Буркне: «Спляжыў краіну бос...»

Бог ці бос? — Шукай вінаватых!..
Пры жыцці — ні кала ні двара,
І па смерці — апошнюю хату
Адабралі...
Амінь і — ура!

* * *

*На Беларусі бог жыве...*
*Ул. Караткевіч*

Калі загаварылі пра закон,—
Ды дзе загаварылі — закрычалі! —
Аблыжнікі, што ўплішчыліся ў трон,
То гэта ўжо з апошняга адчаю,—
Раней яны закон не прыкмячалі,
І не для іх быў пісаны закон.

Калі загаварылі пра народ
І кожны люта пнецца ў абаронцы,—
Тады, лічы, няшчасны самы год
Прыспеў у гэтай збэшчанай старонцы
(У звычку фарысеям-абіронцам
Круціць рэвалюцыйны калаўрот!..)

Калі загаварылі пра аўрал
І вучаць працаваць на Беларусі,—
Не Бог успомніў нас, а чынадрал
З перафарбоўкі зноў на трон вярнуўся..
І я ў сумненнях, Божа мой, малюся:
Ці ты яшчэ жывеш на Беларусі?..

* * *

Я слухаю моўчкі зямлю
І з небам вяду гаворку:
Якую ў сусвеце люблю
Высокую самую зорку.

Не бачаць людзі яе,
І Богу яна невядома,
А мы з ёй даўно свае,
Яна ў маім сэрцы, як дома

І сніцца, і мроіцца мне —
Планіда маёй Беларусі...
Я сам не знайшоў яе — не
Але і згубіць баюся.

* * *

Ільвы з чалавечымі тварамі —
Сфінксы — ахоўнікі часу,
І вы, што іменем класа
Семдзесят год разбазарылі
І на п'едэсталы пачварамі
Ўзабраліся самапасам,—

Якія вам цені вечарам
Стагоддзя дваццатага мрояцца
І што вам сёння замовіцца
Перад пакутнаю вечнасцю?
Ільвам — жыццё чалавечае,
А вам, чалавеказабойцы?

* * *

З выпадку знікнення стрэлак
з гадзінніка ў Мінску над
гастраномам насупраць КДБ

На праспекце — фасад у фасад —
Гастраном і таемны будынак.
Над праспектам — пусты цыферблат
Прад вачыма людзей-невідзімак.

Вокны ў вокны: гандлёвы прастак
З віраваннем галоднага люду
І палац КДБ, што ў кулак
Свет заціснуў,— маўклівы, як Буда.

Знalі стрэлкі гадзіну пік —
Да прылаўка шалёныя кросы.
І звяраў па гадзінніку шпік
Час, калі афармляў даносы.

Дзень за днём душыў гастраном,—
Хто паўлітра хапаў, хто бохан...
Шпік пяром кіраваў, як стырном:
Каб не збілася з тропу эпоха.

Шпік зламыснікаў вызначаў,
Што на светлым шляху наслядзілі.
Люд, задыханы, цяжка маўчаў.
Як мяснік, сек гадзіны гадзіннік...

І аднойчы сарваў гастраном
З цыферблата абманныя стрэлкі,
Перуном цішыні метраном
Страсянуў даносаў ванзэлкі.

Шпік знямеў, бо спыніўся час,—
І куды ён паверне, пракляты?
І даносны будынак анфас
Перад голым стаіць цыферблатам.

* * *

Хлапчук маленькі нацянькі
Бяжыць праз поплаў ад ракі
І маму радасна гукае.

Ці гэта ты?
Ці гэта я?
Ці гэта смерць бяжыць мая?..
Хоць знаю ўсё, але пытаю…

* * *

На полі, як сусвет,—
жытнёвы плёс.
Дарог няма тут, як і не было.
Віецца толькі, як загадка-лёс,
Узмежкам сцежка ў роднае сяло.

Тут сцішыла грымотны свой сувой,
Схаваўшыся за ўзгоркамі, шаша,
І васілёк — нябесны цёзка мой —
Глядзіць,
нібы наіўная душа...

Я тут не сеяў і не буду жаць,
Я тут бездомак, хоць і не чужы.
Вунь пад бярозамі дзяды мае ляжаць,
Ратуй іх, Божа, і аберажы.

Ратуй ад нашых помыслаў зямных,
Аберажы ад промыслаў быцця,
Якімі сон штодня трывожу іх —
Падкінутае ў свет вякоў дзіця.

Адкуль, сцяжынка, і куды вядзеш —
Ніхто не знае і не скажа мне...
І поле мудра прамаўчыць — але
Апошнім суцяшэннем не міне:

Хай я памру,
Ды вечна будзе жыць
Вось гэты васілёчак на мяжы.

* * *

Ну, вырвуся на дзень які ці два!..—
Бывайце, вэрхал і неразбярыха...
Далей, далей ад гарадскога ліха
Вязі мяне, стары аўтарыдван.

Далей, далей...— а думкі ўсё назад
Учэпіста, разгублена вяртаюць:
Ці то аблічча вёскі прарастае,
Ці горада назойлівы пагляд?..

Знасіўся дэмакратыі буквар,
Што голасна лямантаваў на плошчах,
І лыжак алюмініевых пошчак
Раённым міскам б'е ў галодны твар.

Хоць вывяраць гадзіннік «па Крамлю»
Пакінуў певень і гарланіць звычна —
Пазіцыі рубель дэмакратычны
Здае таталітарнаму рублю.

І бабка мільянеркаю ў сельмаг
Нясе тры сотні ў кveленькай насоўцы,
Партрэты Леніна праверыўшы на сонцы,
Прыдбаць што-небудзь у апошні шлях...

Ну, вось і тут мы на аднойназе:
Нарэшце веска даганяе горад...
І ўсё ж — хоць я спакою не агораў,
Мяне адчай смяротны не грызе.

І калі скажа нехта: «Выбірай
Выгаднейшы куток, дзе ў місе густа...
Я адвярнуся, я не здраджу буслу,
Які мяне прынёс у гэты край.

## МІМА МУМІІ..

Пры кастрах на марозе траскучым залелі —
Каб хоць мёртвага ўбачыць — мільёны людзей.
І па сёння — чаргою да маўзалея
Нас ягоная смерць вядзе і вядзе.

Мы яе сваім вечным жыццём зрабілі —
Гэту смерць, што ніякім жыццём не забіць.
І краіна стаіць перад ёй, як рабыня,
І пытае па-ленінску: «Што рабіць?»

Ні прамоў над нябожчыкам, ні галашэнняў,—
Ты прабач нам за здзекі, пакутная плоць,
І за голас загадны: «Рукі з кішэняў!..»,
«Рэчы ў камеру здайце,— вунь там, насупроць...»

Што ўжо мёртваму тут пагражаць чалавеку —
А вузельчыка нават не возьмеш з сабой.
Распранае вачыма служба бяспекі
І з чаргою снуе свой нядрэмны бой.

І вядзе на той свет нас, як Дантэ Вергілій,
Век дваццаты рукою дзікунскай пары.
Трыумфуем, калі на раскрытай магіле
Ў дні ўрачыстасцей топчуцца правадыры.

Вартавыя праносяць жалезны пошчак
І штыкі, нібы д'ябальскія крыжы.
І чарга на далоні Чырвонай плошчы —
Быццам лінія лёсу: колькі нам жыць?
А жыццё? А жыццё — як чарга ў той некропаль:
Рэчы здаў — і праходзь барзджэй!
Каб не ўцяміў, што смерці апошняя кропка
Не бывае за лінію лёсу даўжэй.

## РАЗНЯВОЛЕНЫЯ

Разняволілі селяніна:
Раскулачылі — і ў Сібір! —
Годзе гнуць на палосках спіны!
Там — прастор вам, і рай, і шыр!..

Разняволілі ціхія рэкі,
Што вірыліся пад лазнякамі,—
Збеглі ў свет з-пад крынічнай апекі
Букавіны са шчупакамі...

Разняволілі родную песню,
Раскавалі вякоў абручы,—
Каб душа расквіталася з плесняй —
Да шаленства гарлай і скачы,—

Разарвалі пакутны ланцуг!..
І ў бікіні выходзіць на круг —
Лявоніха разняволеная,
Какафоніяй разлявоненая!..

## НА РАЗВІТАННЕ?..

Як спараванне
Мух
У беднай абеднай талерцы,
Як на экране
Ў шлюх
На міні-зашчапках дзверцы,

Як вертыкальны тэле-
Секс
У тэлефоннай будцы —
Вертыкальнай пасцелі,—
Гома-
Рэфлекс
Выбухаў рэвалюцый,—

Такі наш сённяшні
Дзень —
Агідны, пачварны, пошлы,
Як быццам за ім ідзе
Той —
Самы апошні...

## КАЛЯДНЫ ЭЦЮД

То натоўп, то чарга маўзалейная
Ля дзвярэй магазінных таўчэцца...
Ні сняжынкі... Макроцце залеўнае
Прарастае на лужынах шчэццю.

Восень, як закансерваваная,
Прастаяла аж да Калядаў.
І прыходзяць ціхай нірванаю
Толькі ў памяці снегапады.

Толькі помніцца, як сумётамі
Цераз тын беглі зайцы да яблынь,
Як ганялі снежнымі мётламі
Па заўголлі вядзьмарак д'ябли.

Як гукаў на куццю багатую
Маразоў у застолле тата...
І глядзіш — як цяпер, зіркатыя,
Тэлецені плішчацца ў хату.

Як прагуцца віціі экранныя
Нам шляхі абазначыць у прышласць,
Раскацяць абрусы самабраныя
І спяваць, што ніхто ў нас не лішні...

І спажыву даць папяровую —
Кінуць лозунгі ў масу народа,
І павысіць магутнасць бровараў —
Абаронных нашых заводаў...

* * *

Я пасвіў гусей,
Тых, што Рым ратавалі,—
Ну, можа, не іх,
Не тых самых,
А толькі нашчадкаў.
Кароў
Выганяў у радоўку,
Каб з казак малочныя рэкі вярталі,
І раптам
Даводзіцца ўсё пачынаць спачатку.
Бо кажуць, ні рыфма,
Ні слова маё
Не ў цане на базары...
А дзе ўзяць гусей?
І даўно па кароўках тых
Плача вяроўка...
І пасу свае думы я —
Райскіх авечак атары
Ці казлоў барадатых у пекле,—
Як Пушкін
Ці Броўка?..

## ЗАКОН
## ПАСТАЯНСТВА

Калі ёсць палацы,
Дзе ўчора песціліся
Першых асоб дамачадцы —
То ведайце:
Сёння знойдуцца
Новыя першыя
І, як па камандзе,
Аб роўнасці кінуць спрачацца,
І бой з прывілеямі
Будзе дастойна завершаны!

Калі ёсць паэты,
Што жывым кватарантам помнікаў
Правілі гімны спеўныя,—
Сёння ў новы арган
Натхненне пачнуць
Напампоўваць!
І калі ёсць ахоўнікі,—
Будзьце пэўныя —
Яны знойдуць,
Каго ахоўваць!

## КАРАНІ

Вы любіце ў полі глядзець,
Як рунь на пагорках шчаціцца,
Дзе заяц, як п'яны мядзведзь,
Пад сонцам цыганскім дзяціцца.

Вы ў захапленні святым,
Калі жаўруковымі крыламі
Пылок красавання, як дым,
Гайдаецца лёгка над нівамі.

Вас цешыць, калі пра ўмалот
Шапоча калоссе вусатае...—

Тады прыгадайце і пот,
І пыл на кашулі аратага,
І рукі, што ў поле вясной
З хлявоў выварочвалі гной.

* * *

Ці ёсць і ці водзяццаў нас філосафы? —
Дайце хоць з кім-небудзь пагаварыць!..
Ці душа беларуская злегла без просыпу
І адно спажывае, што скажуць «бугры»?

Тыя, талмуднікі «Курса кароткага»,
Па сумяшчэнні прарабы навук,
Тыя, сексотамі і сексоткамі
Што прыбіралі студэнтаў да рук...

Ці ж не было ў нас калісьці Лышчынскага,
Што за ідэю згарэў на кастры?
Ці гэткі лёс — што дзяржаўнай ляйчынаю
Розум нам вечна будуць вайстрыць?..

Дзе ты зашылася, думка ваяцкая?
Хопіць трымаць дыямату аршын!..
Хоць аднаго — з ідэяй «вар'яцкаю» —
Дайце філосафа — дзеля душы!..

* * *

Праз ноч — без адзінае лямпы
Імчаўся сляпы цягнік,
Хапаліся круглыя лапы
За рэек жалезны цалік...

Нязнаных дарог перагоны,
Планід выпадковы хаўрус,—
І глуха ляцеў пад адхоны
Трывог і надзей землятрус.

* * *

Я здрадных не баюся нератоў,
Даверлівасць была маёй бранёю,
Да хітрасці не засылаў сватоў
І з подласці — смяюся дабрынёю.
Ды ворагу не раю вызначаць,
Чыя труна дзе, а чыя калыска.
І бачу злосць у ворага ў вачах,—
А гэта значыць: перамога блізка!

* * *

Пушкін, Хлебнікаў...
«Трыццаць сем»,—
Ты з якіх звышсакрэтных сістэм?..
І якім экстрасэнсам вядомы
Той — агулам, на ўсіх,—трыццаць сёмы?

Знаем: тройка, сямёрка і туз —
Знак на выйгрыш, з удачай саюз,—
Дзе ж той меч, што дзве лічбы адсек —
Як па сэрцы табе, чалавек?

Пушкін карту падказваў, а свет
Ставіў Пушкіна пад пісталет,
І з гармоніяй корань квадратны
Геніяльна Хлебнікаў сватаў.

«Трыццаць сем»... І ніхто з іх сакрэту
З таго свету не выдаў дагэтуль...

«Трыццаць сёмы»... І нам засталося
Не пусціць на парог «трыццаць восьмы».

## КАНСЕРВАТЫЗМ

Смяецца з наіўных
Цывілізацыя
Ўсмак:
Якія вам нівы,
Калі дэманстрацыі
Па бруку таўкуць
Нарка-мак?..
Нам бы вярнуцца
Да цёплай ляжанкі
Назад,
А курс рэвалюцый —
Свабода служанкі
З аголеным правам
На
    зад...

## ЭЦЮД
## З НАБЯРЭЖНАЙ
## СКАЛЫ

Зор адбіткі ўсплываюць,
Як душы адсутных,
У глыбінях
Касмічныя свецяцца твары,
І паўвыспы
Хвастамі кітоў сухапутных
Б'юцца ў моры —
Выплёскваюць тлустыя хмары.

## ДЭФІЦЫТ

— У ЦК вы?
— У ЦК мы.
— Ой, цікава,
Як цвікамі
Прыбіваюць там партрэты
Сённяшніх аўтарытэтаў,
А ўчарашніх — прэч з ЦК,—
Што, няма для іх цвіка?..

— Ды ў ЦК, брат, як і ў краме:
Дэфіцыт пайшоў з цвікамі...

— Ай-яй-яй,— дзеж тых падзець,
Вартых заўтра павісець?
— Дык жа ўвесь і тлум у гэтым:
Цвік адзін, а шмат партрэтаў!..

## КАЛІ ГУКНЕ...

Калі гукне старая на мяжу —
На тую, што ў нябёсы будзе стартам,
Як ліст асенні, я не задрыжу,
Мая пагарда стане, нібы варта,—
Нахабства набяруся і скажу:
— Сыдзі з вачэй, са мной благія жарты,
І на парог — не дзеля куражу,
А як мудрэц — спакойна пакажу:
— Я не бяссмерця вымагаю ўпарта —
Але я той, каго чапаць не варта!..

* * *

Момант удачы — мамант
Эры ледавіковай:
Праз тысячагоддзі
Не ўбачыш,
А ўбачыш —
Набудзеш аковы.

То выйдзе жнівом
Па вясне,
То кіне ў адчаю карцар,
То воплескамі захлісне
У ганаровы панцыр...

Момант удачы — нуль.
Як у дзяцінстве рэхву,
Каці па дарозе, пакуль
Не сціхне галёканняў рэха..

Тады — пачынай.
У цішы
Працай —
Пакутнай і чорнай —
Не бог — але разварушы
Вечнасці жорны.

## ПРАДВЕСНЕ

Вясна ўсё чутней і прыкметней:
Сумёт на сугрэве ажух,
І кот валачэ на штыкетнік
Праветрыць зляжалы кажух.

Развешвае ў садзе сініца
На голлі ільдзінкі-званкі,
І грак-халасцяк ажаніцца
Намерыўся — раз-навякі!

* * *

Які, скажыце, ідэал,
Чым сёння душы мерыць,
Калі ўчарашні чынадрал
Пражэцца ў мільянеры?

Якія ў глебе карані,
Якое сонца ў небе,
Калі махлярства каралі
Ўздымаюцца на грэбень?

Калі ўхмыляецца гандляр:
Ні жрачкі вам, ні трантаў,—
Адкуль, як вараннё з-за хмар,
Дэсанты камерсантаў?

Якому Богу ад грахоў
Мне памаліцца сёння,
Калі ні вершаў, «ни стихов
Не надобно» Мамоне?

Няўжо, каб рохнуць парсюком
Пры самадай-абрусе,
Сваёй душы ценевіком
Я сам няўзнак раблюся?..

* * *

Новыя цэны, каштоўнасці новыя —
Вечная сцэна, тусоўка дваровая:
«Дзе, што і як?» — валакуць для калекцыі,
Гною камяк — і той па пратэкцыі.

Пакіравала дзяржавай кухарка:
Злева — аўралы, справа — запаркі.
Курс выпраўляюць мужчыны-цэнтрысты
І ў капіталісты бягуць з камуністаў.

Брокер гандлюе тавараў адсутнасцю,
Фірма плюсуе нулёў абсалютнасці,
Хто не з пароды стваральнікаў ровара,
Кінуў на продаж мазгі адмысловыя.

Лезуць хімеры з падполля зладзейскага,
Клан мільянераў закладваюць з дзеўкамі,
Шал палюбоўны нікчэмнасць з нікчэмнасцю
Поўняць нікчэмнай сваёй узаемнасцю...

Змоўна шапчу я на вуха гадзінніку:
Можа, пачуе і ў халадзільнікі
Час гэты блудны зачыніць навечна,
Каб ён прылюдна людзей не калечыў.

Каб у княгінь нараджаліся княжычы,
Не лезлі ў багі, срэбра-золата важачы,
Каб устаяла сумленне пакутнае
Перад навалай гандлярска-атрутнаю,

Перад дэбіламі і кадэбістамі,
Перад дзяўбіламі з'езда партвыстараў,
Перад увішнай хеўрай плячыстаю...—
Божа ўсявышні і Маці прачыстая,
Абараніце!..

* * *

Цікава ўсё ж зірнуць
Адтуль на гэты свет:
Хто б'ецца аб труну,
А хто смяецца ўслед?..

Таму адкрыйце мне,
Каб там спакойны быў:
Хто дзень і ноч кляне,
А хто даўно забыў...

Скажыце так: «Во, дзед,
Ўсёй праўды паласа...» —
Аб тым і запавет
Я Богу напісаў.

І пахаваць маліў
Мяне, пакуль жывы...
Я свечку запаліў,
А памінайце — вы.

* * *

Дзе разнатраўя шугалі рэкі,
І небаў плыні гайдала сувой,
Дзе перакаты «з вараг у грэкі»
Ішлі праз памяць легендай сівой,

Дзе пчолы неслі ў сотаў сусекі
З лугоў квяцістых узятак свой,
І навальніца — як райскія лекі
Варыла ў сто вясёлак напой,—

Там сухаполля шэрыя здзекі
Ўзышлі калючаю трын-травой,
І нэдастойныя чалавекі
Трымаюць німбы над галавой...

* * *

Ну вось і збываецца мара паэта:
Друкую вершы, чаканю санеты
Не на паперы, не на дысплеі —
На кожным лісціку шумнай алеі.

Друкую на небе, друкую на снезе...
А колькі фантазій задзірыста лезе —
Радок да рад очка — у полі азімым...
Друкую на возеры1 ўсплёскам язіным.

Друкую на скуры — татуіроўкай,
Друкую з натуры,— як Татур і Броўка...

Без кніг, без газеты —
Чытайце паэта!

А ўсё па выпадку мне ўдача такая,—
Удача прыходзіць — яе не шукаюць.
А гэтая, наша, як шчасце, здараецца,
Калі без паперы друкарні спыняюцца.

Няма ні шматочка,— хоць ты Маякоўскі,
Няма дзе паставіць ні кропкі, ні коскі.
Затое — друкуйся сусветнаю мерай
І геніем чуйся, бо крызіс з паперай.

## ПЕРАМОЖЦА

Як вось зямлі, цяжкая кавяла —
Рыпіць, але на свята прывяла,
І хто — планета з ёй ці радавы? —
«Кру-гом!» — артыкул круцяць страявы?..
Ваяка баявы, павіслы вус,—
Як успамінаў адламаны кус:
Удовам дахі правіў і платы,—
Па вёсцы ўсёй кугакалі браты.

І ці не ў кожнай хаце сёння свой
Ён з чаркай самагоннай, франтавой.
Адно што і самому ўжо няўцям:
Дзе ўнук бяжыць, дзе простае дзіця...

Але на свяце — зноў па чыне чын —
Праменіцца ў бывалым кірзачы
Усё, што вынес з праведных баёў:
Адна нага і дзесяць медалёў.

* * *

Перапёлка ў жыце,
Волкая расінка,
Я аддам сто жыццяў
За тваю слязінку.

Я аддам сто жыццяў,
А з табой вярнуся,—
Перапёлка ў жыце,
Знічка Беларусі.

* * *

Лістапад-прадзімнік,
Жоўты калаўрот,
Снегу прывязі мне,
Санкам дай разлёт.

Цохкія падковы,
Полаз, як агонь,—
Па дарозе новай
Ты скачы, мой конь!

Мне не для пацехі —
Каб ажыць ізноў:
Трэба так праехаць,
Як даўным-даўно.

На пралётных санках,
На кані гнядым —
Заінелым ранкам —
З татам маладым.

А як я праеду —
Дні перагартай,—
Не пакінь і следу,
Сцежкі замятай.

Мне цяпер даволі —
Аж да скону дзён —
Волі той у полі,
Што звініць, як звон.

Лістапад-прадзімнік,
Дзякуй за хаўрус,
Снежаньскі сцялі мне
На Дзяды абрус.

* * *

Са мной заўжды таварышы мае —
Вось гэта поле, гэты лес і неба.
І толькі песні жніўнай не стае,—
Згубілася? Ці ў ёй няма патрэбы?..
Сышла ў нябыт, як спрацаваны серп,
Са жнеямі палегла пад крыжамі...
І зброддлівы магнітафонны сверб,
Нібы кароста, душы паражае.
Нібы ўладарыць нёжацъ на жніве
І некась на лугах стаіць нямая,—
Дзе тая песня? Ці яшчэ жыве,
Ці мёртвая — а ўсё мяне гукае?..
Мне боязна, таварышы мае,
За вас мне страшна: я сыду, смяротны,
А як жа вы без песні?! Без яе —
Няўжо і вы знямелі беззваротна?..

* * *

Адабраны мой край,
Край, стаптаны бязроднаю паствай,
Анямелы мой край,
У якую патрапіў ты пастку?
Хто наставіў яе
І сыноў тваіх зманнаю сілай
Мусіў збэсціць свае
Карані, і шляхі, і магілы?
Хто завабіў і чым
Ад цябе адракацца самохаць?
Хто забіць і забыць навучыў
Слова роднае імем эпохі?..
Адабраны мой край,
Занядбаны,— далёка хаўрусаў
Ты зламысных сваіх не шукай,—
Гэта мы, гэта мы — беларусы...

* * *

Разарвуцца сутак абручы,
Знікне чорна-белае мільганне,
І не выйдзеш з гуслямі ўначы
Абудзіць магільнае курганне.
Не замкнецца небам далягляд,
Сонцам не абрынецца дарога..
Толькі стылай вечнасці парад
І тупой бясконцасці знямога.
Ды кашчэем космас у сяўбе
Рассыпае і збірае зоры...
Вось тады і праклянеш сябе
Воляю — без часу і прасторы.

* * *

Як гэта музыка без слоў,
Што ападае з клёнаў долу,
У сэрцы неба прарасло
Тугой аб шчасці невядомым.
Аб шчасці тым, што не было,
І быць, здаецца, не павінна,
Якое Бог табе пакінуў,—
Ды, пэўна, весткі не дайшло...

* * *

«Пахне, пахне — чалавечым духам»,
Захлынуўся злосцю дух нячысты.
«Пахне чалавечынай»,— і нюхам
Кат барвяніў ноздры лапушыста.

Вечна побач, у хаўрусе вечным —
З чалавецтвам у любві злюцелай:
Той — каб у жывых душу нявечыць,
Гэты — адсякаць душу ад цела.

І не збочыць нам, і не вярнуцца,
Не знайсці інакшае дарогі...
Крыж Хрыста і попел рэвалюцый,
Знакі перамогі ці знямогі?..

* * *

Моцныя, халодныя нарогі
Паласуюць глебу пласт за пластам,
Дзіўныя бываюць перамогі
Над зямлёй і над жыццём уласным:

Ад жніва сяўбой адгарадзіцца,
Памяць зерня каранямі сцерці,
Быць у небыцці — а нарадзіцца
І вярнуцца толькі пасля смерці...

* * *

Анёлаў бяскрылых стрэс —
Бяскроўны плач немаўлятак:
«Людзі, вярніцеся ў лес
І пракляніце атам...»

* * *

Калі дзень першы тварэння
Кранаецца душ чалавечых,—
«Прыйдзі, беларускі геній!» —
Я заклінаю праз вечнасць.

Прыйдзі, каб узняць з каленяў
Бяспамяцтвам затаптаных,
Прыйдзі, беларускі геній,—
Бяда нараджае тытанаў!..

Калі між багоў пачнуцца
Вялікія перадзелы
Іменем рэвалюцый,
Сцягоў, ад крыві зрудзелых,—

Скажы ім: «Дзей землятрусных
Не ладзьце, багі-алімпійцы:
Аддайце Расію рускім,
А нам — Беларусь пакіньце».

* * *

Публіцысты лірыкаў, як заедзь,
Як машка таежная, сякуць...
Пад кустом лірычным, нібы заяц,
Верш мой рыфмай бумкае ў шчаку:

«Тэмпы, бітвы, мітынгі, пачыны,—
Не бяжы за фактамі наўспрыцьь:
Праўда голая — як голая жанчына,—
Хочацца хоць чым-небудзь прыкрыць»..

* * *

Дагарае на ветры мая залатая дуброва,
І Паўночная зорка адзіны кірунак дае:
Ён туды, дзе завея насупіла снежныя бровы,—
І ніхто не суцішыць халодную песню яе.

Будзе ўсё, як было,— замятаецца сцежка
зямная,
І ніхто не заўважыць, як ты ў гэтай стыні
згарыш.
Ды пачуе віну, што камусьці яшчэ замінае,
І драўлянай рукой сам сабе перакрсціцца твой
крыж.

## НЯЎЖО...

Няўжо, як над пакутнаю зямлёю
Свабоды неба вараннём кішыць,
І сёння Каліноўскага пятлёю
Нас Мураўёвы хочуць задушыць?

І Паўлюка Багрыма жырандолі,
Як свечкі памінальныя, няўжо
Гарaць і сёння над тваёю доляй,
Радзіма на бяспамяцці крыжоў?

І сёння нашы стомленыя хаты
Няўжо не дапытаюцца асноў?
Няўжо ж парог бацькоўскі вінаваты,
Што кліча — не даклічацца сыноў?..

Няўжо не быў народ пасіянарным,
Калі меў лёс страшней за эшафот,
І сёння, перакручаны пачварна,
Няўжо душой не ўзвесніцца народ?

Ці будуць зноў, Радзіма дарагая,
Бунтоўны рус і апраметны лях
Святлом штыкоў, шпіцрутэнаў, нагаек
Табе ў наступнасць выпраменьваць шлях?..

## АЎТАТРЭНІНГ

Ці праклінаюць да асноў,
Ці славяць без агляткі,
Ці захапляюцца аслом,
Ці бонзе б'юць у ладкі,

Ці ўлада выпала карчу,
Ці чорт сядзіць на троне,
Хачу маўчу, хачу крычу -
І хто мнё забароніць?!.

* * *

Сядзіць у касцях — як закон:
Штодня і далей, і вышай»,—
Сацыялізму плён
І камунізму дышаль.

Вяршыні штодня штурмаваць
Вучыся — і ў песні, і ў працы!
Каб хібы штодня выпраўляць,
Вучыся штодня памыляцца.

І сёння, і заўтра — штодня…
А жыць калі ўрэшце будзем?
Чыя мы ўрэшце радня —
Якога свету прыблуддзе?

Пхнецца гадоў арба,—
Зазначылі класікі слушна,—
І выціскаць раба
Трэба па кроплі з душаў.
Энтузіязму гарляк
Заціснуць, каб не ўлюлюкаў,
І ўняўшы святочны гляк,
Слухаць мелодыю Глюка…

* * *

Былое — не бывае,
Мінуламу няўцям:
Атака лабавая —
Закон і сэнс жыцця.

Не знае адступленняў
Касмічны той разгон.
І першы дзень тварэння,
Мабыць, апошні ён?

Не павярнуць з былога
Ні лёсаў, ні дарог.
І ў будучым — нічога
Адкрыць не можа Бог.

* * *

Хто мы і дзе мы — без мовы і маці?
Б'е інтэрдэман у грудзі эпох.
Бог наш у блудзе, бог наш растраціў
Болей, чым мог...

Душы злінялыя брагай палошчам,
Век свой аўраламі цела гняцём
І звар'яцела даводзім на плошчах:
Што ёсць жыццё?

Родняць нас крэслы халоднай крывёю,
Розуму крэсы крамсаем — абы
Шлункі акрэслілі норму спакою,—
Рыбы, рабы!..

* * *

То балет класічны, то сімфонія,
То спявае Лучыяна Паварoці:
Ці памёр з правадыроў хто сёння,
Ці чарговы путч пераваротны?..

Аб надвор'і палітычным тэлерадыё
Выдае музычныя прагнозы.
Што ні дзень, то новы курс урадавы:
Як нам выйсці ў авангард з абозу.

Дакляруе на ўвесь свет віцця ўспенены,
Як абуць і накарміць краіну,
Учарашні бос мардуе Леніна
Іменем святым Айца і Сына!

Хрысцяцца ў «хадэкі» камуністыя,
Голяць Маркса і мяняюць маркіроўку.
Дыяматчык «на пазіцыях» не выстаяў:
Прадае кароўку і вяроўку.

І экран на ўсе тэлеабдоймішчы
Прэ ў народ і ўзахліпкі гайдарыцца.
А ў народа — сталае відовішча:
У чарзе, як у пятлі, гайдаецца.

## ЗАПІС
## У КНІГУ ВОДГУКАЎ
## МАСАНДРАЎСКАГА ВІНАЗБОРУ
## Ў КРЫМЕ

Бутэлек чорныя тамы —
Масандры вінатэка:
Упокат — горныя грамы
І сонечныя рэкі.

Вось гэткую спадобіў цар,
А ў гэтай князь купаўся...
І толькі той не бачу ў твар,
З якой народ «змагаўся».

Славутых марак, як парод,
На шыльдачках найменні.
Але шкада: на сотні год
Бутэлькі анямелі.

Дзе галасу згубіўся ключ?
Насухама трымае,
Як у намордніках, сургуч
Пародзістую зграю.

Маўчаць скляпенні камяніц,
У скронях — звон цвярозы.
А ў думках — зваба шаляніц,
Брэх дварнякоў пагрозны:

«Сучок», «бландзінка», «каленвал»,
«Мярзотнічак», «кустоўка»...
Тут вам не сонечны абвал,
А галаваразломка!..

Калі такая вось гайня
Прычэпіцца навальна,
То не ўратуюць ні радня,
Ні кодэкс крымінальны.

Штаны спускае на шматкі,

Кішэні праргрызае.
Ды ў рай затое напраcткі
Дарогу праразае.

Бунтуй, задзірысты народ,
Душы разломвай краты!..
А тут — бязмоўных ценяў сход,
Тут спяць арыстакраты...

* * *

Не спяшайся, той дзень, калі стану
Я ўсёбачным і чуйным, калі
Я ў празор'і сусвету растану
І спасцігну ўсе тайны зямлі.

Дай мне тут паблукаць у цямнотах
Невядомых і страшных дарог,
Дай смяротным пабыць між смяротных,
Дзе я цар і чарвяк — але бог.

* * *

З лесам, як і з гарамі,
Быць чалавекам мала.
Лес ад іскрынкі згарае,
Каменьчык нясе абвалы.

Іскрынка ў сухую іглiцу
Ўпадзе светлячком нявінным —
І выбухне навальніца
І ў корані, і ў верхавінах.

Каменьчык звонам пчаліным
Змушае нямыя горы
Азеўрыць ратоў цясніны
На ўсё каменнае горла.

А чалавек? ! Чалавеку
Суджана быць душою,
Суджана быць апекай
Лясных і горных устояў.

Аддайце ж, і лес, і горы,
Усе вашы крыўды і гора,
А мне наўзамен, недарэку,
Скажыце: як быць з чалавекам?

* * *

Хлопчык на парваным фотаздымку —
Як драбочак іншага сусвету:
Заляцеў, тырчыць здзіўлёна грыўкай
І не знае, што рабіць пры гэтым.

Жых! — і адзінюсенькім зрабіўся,
І глядзіць у вочы нам трывожна:
Раптам ад мінулага адбіўся
І злучыцца з сённяшнім не можа.

Як з гнязда, з матуліных абдымкаў
Выпаў і аб чымсьці ўсё пытае,
І праз дваццаць зім вясну вяртае,—
Хлопчык на парваным фотаздымку.

Выцвіў жыццяпіс на адвароце:
Колькі год было сынку і маме...
Чым жа, чым віноўны перад намі —
Гэты хлопчык з пальчыкам у роце?

* * *

Душа заснула і маўчыць,
Як вір пад снежнай стромай,
А хтосьці з глыбіні крычыць —
Даўным-даўно вядомы.

Я засланю рукамі слых:
Каго там пахавалі?
Ды страшна вабіць ускалых
Застылай, цёмнай хвалі,—

Як весні водбліск на крыле
З халоднага нябыту,
Як воблік зваблівы — але
Даўным-даўно забыты...

* * *

Якія даты ў канверце
Пазначыў ён і апячатаў,
Якія знакі аб смерці:
Канец гэта ці пачатак? —
Але — хай я тройчы праклятый,
І ў памяці гэта не сцерці,—
Богу малюся ў будзень і ў свята:
Каб разам з табой даў памерці.

* * *

Кажуць, на развітанне з мінулым
Чалавецтва рагоча з яго:
Адсякаюць агулам тым гулам,
Што было — ад чарцей і багоў...

Смех з карэннем дзядоў вытрасае,—
Чалавецтва смяецца ўсмак.
Над знямелымі галасамі
Смех цвіце, як чырвоны мак.

Смех — з мінулым каб расквітацца —
Чалавецтва абрала цаной,—
Так смялей. Як смялей кітайцам
За Вялікай Кітайскай сцяной.

Як смялей смельчаку, што спявае,
Уначы ля магіл ідучы.
Як смялей, калі зычна гукаюць,
Сальта круцячы, цыркачы...

Усясмейны страх, усясветны...
А страшней: між д'ябальскіх труб
Раптам — з будучыні ракетнай —
Развітальна, як з апраметнай,
Засмяецца апошні труп...

## ПРАБАЧЭННЕ

Прабачце, вершагоны-пабрацімы,
І вы прабачце, слынныя музыкі,
Калі бягу, самотны, нелюдзімы,
Ад вас у край закінуты і дзікі,

Дзе ёсць яшчэ крынічка і лаза,
Што схоў той жыццядайны атачае,
Дзе лёс мой тайну смерці завязаў
На зорным неразгаданым прычале,

Куды я зноў і зноў іду спытацца,
Адкуль, і хто мы, і якога роду...
Калі дарог няма да вас вяртацца —
Прыміце, хлопцы, як узнагароду.

Прабачце мне, абраннікі багоў:
Мы ўсе — нішчымцы перад гэтым краем.
Я вас не чую, хлопцы, без яго:
ЁН верш вядзе і музыку вяртае.

* * *

Паэзіі штучная глеба...
Бяссонна, тайком ад людзей
Яе пасылаеш у неба,
Каб вырасціць жменьку надзей.

Паэзіі вечны астрожнік,
Кілзаеш ілюзій нулі,—
І штучны ляціць спадарожнік
Вакол адзінокай зямлі...

* * *

Зноў — насуперак календарам —
Лес, нібыта ў сонечным дыме,
Тоне ў бабіным леце. І нам
Гэтак хочацца быць маладымі...

Як тады, той асенняй вясной,
Дзе нам верасень выслаў кілімы,
Дзе згубіліся ў казцы лясной
І дарог адшукаць не маглі мы...

Тая ж восень п'е кубак да дна,
Ападаюць лісты залатыя,
А з-пад іх прарастае вясна,—
Толькі мы ўжо не тыя, не тыя...

* * *

Вачыма памяці глядзім,
Дзядоў склікаем на вячэру,
П'ём чарку, і куццю ядзім,
І п'ём — яшчэ раз і яшчэ раз...

Усё, што маем, стол сабраў,
Хоць і не поўны круг у нечым:
Каб на Дзяды дванаццаць страў
Было — і з холаду, і з печы...

Ні шынкі і ні кіндзючка,
Што летам на гарышчы высмяг...
Ды так не толькі ў мінчука,—
То не ўзніміце нас на высмех...

Усім «жыцця гаспадары»
Такую зладзілі вось казку...
Таму да лепшае пары
Прабачце, госці, калі ласка...

Каб і ў сяўбе, і ў малацьбе
Быў лад і плён, дзядоў мы просім,—
Як бы прыгадваем сябе
Цераз стагоддзяў шматгалоссе:

Якімі мы тады былі,
Жылі ў прапрашчураўскіх мроях,
Якімі будзем на зямлі,
Калі адыдзем у былое...

І ў хаце погалас адзін:
Дзядоў склікаем на вячэру,—
Вачыма вечнасці глядзім
І крышачку ў бяссмерце верым...

* * *

Такая рэвалюцыя была ўжо,
Калі паэты паміралі з голаду
І мудрацы на філасофскай баржы
Плылі ў выгнанне да буржуйскіх соладаў.

Калі «бродящим призраком» Чарнобыля
Быў шар зямны смяротна абпрамянены,
Калі краіну вёў на месца лобнае
Той дух, што выспеў пад ілбом у Леніна...

Была, была такая рэвалюцыя,
Калі крычаў лайдак: «Усім пароўну!»,
Калі тэрор з крывавай рэвалюцыяй
Стаяў, як волі брат адзінакроўны.

І вось ізноў з працягнутай рукою
У свет ідуць і ямбы, і харэі.
А мне ізноў — ні сну, ні супакою,
І муза рэвалюцыяй хварэе.

Хварэе — перманентнаю, паўзучаю,
Што ахрысціў генсек перабудовай,—
Як быццам той, мінулай, не навучаны,
Я рэвалюцыі ўжо кланяюся новай!..

## А МОГ БЫ

Якая няўмольная сіла
Вядзе, каб ты ў бунце аслеп;
Якая рука замясіла
Змагарны і горкі твой хлеб?

У багне канверсій, інверсій,
Дзе смягне партыйная рацьь,
Чаму ты ў віціі ірвешся? —
А мог бы — кахаць ды спяваць!..

* * *

Разрывалі душу на часткі —
Дамавіны гайдаўся човен...
Пры сцягах, пры вярхоўным начальстве
Разрывалі душу Ткачова.

На абгон — уніят Матусевіч
А за ім — Філарэт праваслаўны:
Хто найлепш у той свет пераселіць,
Адпявалі законнае права.

І ляжаў знакаміты гісторык —
Свечкай прышласць сплывала ў былое,—
І ўсміхаўся: «Для поўнай прасторы
Варта б рабіна клікнуць з мулою...»

Гэткі лёс ужо наш беларускі:
І па смерці бяруць аблогай,—
Поп з ксяндзом бягуць упрытруску,
Вызначаючы ў рай дарогу.

Сцелюць пухам зямлю падыспад...
Добра, што яшчэ па-гаспадарску
Не ўварваўся ў высокі дыспут
Сам Лаўрэнцій Абецэдарскі...

Ды каб цэльнасці дух не растраціў,
Ахінае ахоўна Айчына.
За цябе ён маліўся, маці,
Памаліся і ты за сына...

Будзь апорай яму і падмогай,
Благаславі яго шлях чалавечы:
Без пасрэднікаў — прама да Бога,
Без замоўнікаў — прама ў вечнасць.

## СОРАК ДЗЁН

Пэўна ж, нейкі дапёк свінтос
Ці абрыдла дарэшты зямля ўся:
Сорак дзён у пустыні Хрыстос
Ад людзей і ад свету хаваўся.

Адпусціў на пашу асла,
Адмяніў візіты, круізы,
Не прымаў ні цара, ні пасла,
Сорак дзён не глядзеў тэлевізар.

(Свісне дока: «Адкуль жа ён
І Нашу тэхніку браў, панове?» —
Адкажу: «Бог ёсць Бог,— з нашых дзён
Напракат мог усё замовіць!..»)

Значыць, так: тэлік Бог адключыў,
Даў адгул усім чыста радыстам,
І каб спаць спакойна ўначы,
Гвазданууў аб камень транзістар.

Як адсек: «У меню — ні на грам
Тэле-радыё-пацярухі!..»
Сорак дзён Хрыстос з-за «бугра»
Айзенштат Галіну не слухаў.

І не чуў — крычы не крычы,
Хоць сабе налажы галавою,—
Як жыццю беларусаў вучыў —
Сам-з-Нью-Ёрку — Сокалаў-Воюш...

Сорак дзён — ні кіно, ні шоў,
Джаз-бандыт увушшу не ляскаў,
Ні жанок, ні мужчын-галышоў,—
Сорак дзён жыў Хрыстос па-райску...

І на сорак першы сказаў
Уладыку-айцу Саваофу:
«Вось цяпер я жыццё спазнаў!
Зараз — можна і на Галгофу...»

І пайшоў — крыж прыняць за нас,
Ценем шлях ахіналі алівы...
Сорак дзён — найнікчэмнейшы час —
Але быў жа пакутнік шчаслівы!..

* * *

Жыццё — загадка, жыццё — іспыт:
Над прорвай звабнай прайсці па дроце.
А мы — бяжым, аж звініць капыт
На кожным д'ябальскім павароце.

То рэвалюцыя, то застой,
То Юр'еў дзень, то аседласці рыса,—
Заўсёды мы перад зманнай вярстой:
І ў пекле — райскія ёсць абрысы.

Каму цукерка, каму бізун —
А кожны з лужыны пнецца ў мора,
І чэснасць лічым за драбязу,
І выкідаем на сметнік гонар.

Хто вераломствам, а хто маной
Збіваем прагна спакусы яблык —
Абы з наварам — любой цаной,—
І спавядацца бяжым да д'ябла...

* * *

Калі б не гэты спічасты гмах,
Што пнецца ў вокны мае з усходу,
Здаецца, крылаў пачуў бы ўзмах,
Пабачыў шумных гусей чароды.

Яны гарлаюць там, на жніўі,
Яны гукаюць з майго дзяцінства —
Мае мачулінскія салаўі,—
Стаяць, чакаюць мяне ля гасцінца.

А я не чую, а я ў сцяну —
У гэты мур абложна-цагляны —
Урос паглядам і тупа цягну
Свой лёс, нудой гарадской зацугляны.

І на адно толькі духу стае —
Думаць бязвольна пра тое няшчасце,
Калі ў чалавека ёсць хлеб на стале,
Ды ўсход будыніна шэрая засціць...

* * *

Мала яшчэ памерці,
Гэта яшчэ паўбяды —
Схопяць анёлы ці чэрці
Душы тваёй горкі дым.

А беды пачнуцца потым —
Заблытацца можа сам Бог:
Якія аформіць «пачоты»,
Каму падпісаць некралог...

Колькі абраць прамоўцаў
І вызначыць, на якой
Ідэялагічнай вяроўцы
Труну апусціць на спакой...

І па якому разраду
І побач з кім пахаваць...

Паслухайце, хлопцы, параду:
Лепей не паміраць!

## 13.XI.92

Сёння вядзьмарскі дзень,—
Кажуць, для творчасці ўдалы:
Рыфмай апошні пень
Шпарыць, як сам Купала.

Знак сатанінскі — павук,
І лапа яго крывая
Пэндзаль у майстра з рук
Учэпіста вырывае.

Як пугаю па вадзе,
Шлёгае фарбамі ўроссып,—
У шматкалёрнай бурдзе
Тчэ сатанінскія кросны.

Какафанічны зык
З пекла выносіць музыка...

Ды лезці мой дзень не звык
Да гэтага дня ў пазыку.

Як-небудзь перамялю
Д'ябальскія спакусы.
Справу сваю раблю
Шчырай душой беларуса.

На выслугу павуччу
Не выдамся з праўдай сваёю,
За слова — жыццём плачу,
Потам сваім і крывёю.

* * *

Згублены арыенціры,
Зруйнованы ідэалы:
Гандляр прымярае парфіру,
Паэт — штаны чынадрала.

Такая ў нас песня зараз:
У душах — навар ды прыбытак,
У сэрцах — нахабства базару,
У зрэнках — рахункаў адбітак.

На голую ўсё патрэбу —
На продаж: і шчырасць, і ласкі.
Ні вечнай красы пад небам,
Ні... камуністычнай казкі...

І новым асвечана санам
У новым чыноўным крузе:
Каму праспяваць асану,
Якой пакланіцца музе.

Вылазіць на сцэну з падполля
Прадажнае закуліссе...
Адно суцяшае: ніколі
Я гэтым багам не маліўся...

* * *

Амфітэатра кола,
Круглая гаварыльня,—
Вясёлых падманаў школа,
Мудрасці зубадрабільня.

Колькі прайшло партакратаў,
Дробненькіх і вялікіх,
Колькі прыйшло дэмакратаў,—
Людзі ўжо збіліся з ліку.

А манументальная зала
Помніць з архіўным стажам,
Што ўлада старая казала,
І знае, што новая скажа.

Усё ад імя народа
І ўсё — у імя народа,—
Такая ўжо тут на сходах
Нарадалюбцаў парода!..

У клятвах заломваюць рукі,
Гатовы сканаць за эпоху...
То, можа б, ад гэтай мукі
Іх ратаваць патроху?

Ці нейкі настой адваротны
Прыпісваць для ахалоды,
Бо ад любові смяротнай
Няма куды дзецца народу...

## МЕЛОДЫЯ
## БУЛЬБЯНАЙ БАРАЗНЫ

Ад золкага ветру пальцы пакрэплі,
Ім бы нырнуць у дупло рукавічкі,
Як гэта робяць праныры-сінічкі,
Калі заснежыцца хмар атрэп'е
І гусі-бежанцы нікнуць, як знічкі.

А бульба зябка бялее ў барознах
На чорным загоне — як вокам акінуць,
І ў нізкім паклоне гнуцца жанчыны —
У шэрых ватоўках ніцыя лозы,
І пырхаюць пальцы, як над піяніна...

Бягуць баразной, як шукаючы песню,
Што весні жаўрук перанёс сюды з неба,
Схаваўшы пад сэрцам у цёплае глебы,—
І колькі ў пошуку ператрэсці
Барознаў трэба — за грэбнем грэбень...

Асеннім эцюдам дзень вечарэе,—
І хто пачуе мелодыю тую,
І хто вас, пальчыкі, пацалуе,
І хто дыханнем сваім абагрэе,—
Хаця б тады, як са свечкай скрыжуюць...

* * *

Хоць на пясок размяліся сыпучы,
Хоць зледзянелым каменем будзь,—
Сутнасць яны неабвержна нясуць:
Адной любосці — ніхто не навучыць,
Другую — самі' ўсе пазнаюць.

Усё гэтак мудра, і ўсё гэтак проста,—
І д'ябал адзін: ці прадаць, ці купіць,—
Ды лепей, як сверб любосцяў тых спіць...
Таму і не варта вучыць двум рамёствам:
Вершы пісаць і гарэлку піць...

## «РЭВАЛЮЦЫЙНАЕ ЧЫРВОНАЕ»

**Надпіс на этыкетцы**

Kроў на сцяг свабоды лілі,
І ў Сібір вялі на папас,
І змагаліся, і пілі,—
За здароўе працоўных мас!

І па сёння той бой ідзе —
Крэматорый, дзе душы гарaць,
Каб пры Марксавай барадзе
Маладзіць пралетарскую раць.

За здароўе працоўных мас! —
Каб прабрала да каранёў,—
П'ём чырвонае, п'ём — не квас,
П'ём, каб зноў наліць да краёў.

Каб ідэйна-здаровы зачын
Меў рабоча-сялянскі стан,—
Колькі выбіта? — не злічыць,
Колькі выпіта? — акіян...

## У АКАДЭМІІ НАВУК

У Акадэміі навук
Сядзіць гісторык, як павук:

На маркс-меню ажно распух,
Нацдэмаўскіх палюе мух

І на гісторыі айчыннай
Усё забэрсаў павуцінай...

## ВЯСЕЛЬНЫ СЮЖЭТ

Гамер бы стаў Гайдарам,
Знямеў бы сам Шэкспір:
Такая выйшла пара —
Кіфара і кефір...

## З «ДЗІЦЯЧАГА СШЫТКА»

### ЭКАНОМЛІВЫЯ ГУСІ

Эканомлівыя гусі —
Эканомяць на ядзе,
Эканомлівыя гусі —
Эканомяць на вадзе.
Эканомлівыя гусі...
А з падворка як збягуць —
Эканомлівыя гусі —
У патраву так і пруць...
Бачыць той, хто не сляпы:
Гаспадар у іх скупы.

### КІМ БЫЦЬ

***Музычная фантазія***

Байкі баяць распачну —
Буду баяністам.
З бандай змову закручу —
Буду бандурыстам.
Альт настрою, загуду —
Стану альтруістам.
А я ў органы пайду —
Буду арганістам!

### *ПАЛКАН*

Наш Палкан стаў фізікам амаль:
Зубрыць ланцуговую рэакцыю,
Ланцуга свайго штудуе сталь
І ў старанні аж зубамі кляцае.

Я Палкану ўзяўся памагаць:

«Кінь,— кажу,— навуку ланцуговую:
Я цябе спускаю з ланцуга —
І ў сабаку зноў перавыхоўваю!..»

## ХАДЗІЛА ВЯРБА...

Хадзіла вярба,
Дзе дзяцей гурба,
Наравістых выбірала,
Наравы выганяла.
Пястуху-дзяўчынку
Шлёгала галінкай,
З дураслівым хлапцом
Гаварыла дубцом:
— Наравы, наравы,
Ідзіце на равы,
На ямы ваўчыныя —
Ад натуры дзяцінае.
Там з вятрамі гайсайце,
А дзяцей не чапайце.
Хай растуць — не маркоцікі
Слухмяныя,
Як вярбовыя коцікі,
Рахманыя...

Так вярба прамаўляла,
Так дзяцей навучала —
Як дурноты
Пазбыцца,
Ад ляноты
Лячыцца,—

У Вербную нядзелю,
На добрую надзею...

## НААДВАРОТ…

Дзяржаўнага славілі мужа,
Каб ведаў увесь народ,
Што муж быў разумны дужа,
Аж нават наадварот...

І тыя, хто пеў асану,
З ім побач без перашкод
Да славы сягалі таксама,—
Аж нават наадварот.

І столькі салодкіх пахвалаў
Крычаў калектыўны рот,
Наколькі разумных хапала,—
Аж нават наадварот...

## НАДПІС НА МЕЖАВЫМ ЗНАКУ «1999-2000»

Сплывае век дваццаты грэшнікам,
А дваццаць першы ззяе грыўнай,
Ідзе са світаю пацешнаю
І ў твар людзям глядзіць наіўна.

Як афрыканец, у якога
Язык у роце не ўмяшчаецца
І вусны з рупара пустога
Паганскім смехам прычашчаюцца;

Як ты, двайнік мой, калі неруш
Мне аддаеш з перасцярогай,—
І я дзіўлюся: мне ты верыш,
А лепш было б — паверыць Богу...

Паверыць маці-адзігітрыі
З уратавальнікам на ўлонні,
Калі абраз выносяць хітрыя,
Каб зноўку працякоў палоніць...

...Апошні зуб адзінкі тоненькай
Тапырыцца з цынготным досціпам,
І тры дзевяткі-апалонікі
Вось-вось свае адкінуць хвосцікі.

Надзьмуцца і, як перад згубаю,
На раздарожжа веку выскачаць —
І ўжо, нібы раты бяззубыя,
Нулямі пракрычаць: 2000!..

І новы век старому веку
На мытні часу сплаціць пошліну,
Дзе ў снах, як у пустых засеках,
Я зерні вымятаў апошнія...

## ВЕСТКА

Усё ў заснежаным здранцвенні,
Усё ў закутай цішыні,
Забыліся галінак цені,
Што ёсць на свеце карані.

Сінее інею іглiца,
Імгліцца сонечны скрылёк,
Ды ў зябкім голасе сініцы
Трапеча сіні васілёк.

* * *

Ганяюць кур'ераў чэрці —
Хаўруснікам быць у хлусні,
А я ўжо не іх на тры чвэрці,
А чвэрць — для апошніх масніц.

І ясна адно: паласні
Маланкаю лёсу па сэрцы,
Ды памяткі гэтай не сцерці,
Як «иже — на небеси...»

Загнала жыццё' ў свой вянцер,
А глянеш — як сон прысніў...
Вось так бы даў Бог і памерці:
Спакойна, без мітусні...

## ГОСЦІ-ЎСПАМІНЫ...

> «Як вы кахаецеся?» — спыталі ў вясковага хлопца. «Пашэпчам, пашэпчам ды засмяёмся...»

З прачыстым снегам, з празрыстым смехам
Да зыркай печы ляцела снягуркай.
Марозны вечар на месяцы ехаў:
«Снягурка, снягурка, згуляем у жмуркі!..»

Калядная казка, зорная ласка:
У пацалунку з небам зліёмся...
На белым пагорачку — весняя краска,—
Пашэпчам, пашэпчам ды засмяёмся...

Вечар зімовы, снягоў замовы:
«Мароз, мароз, хадзі куццю есці!..»
Трашчаць не ў печы — на холадзе дровы,
І светлае полымя згубілася дзесьці...

А на парозе ў стылай знямозе —
Госці-ўспаміны,— пагрэцца, няйначай?..
Жар снегірыны на белай бярозе...
Памаўчым, памаўчым — і заплачам...

## ДАРОГА

Ад парога — сцяжынкай праз двор,
У траве-мураве цераз поле,—
Як устане, дастане да зор,
Ды ні слова не скажа аб долі.

Вы навошта, адкуль і куды,—
Не спытае ніколі ні ў кога.
Хто прайшоў, хто пакінуў сляды,—
Раўнадушна не знае дарога.

Быць удачы ці чорнай бядзе?..—
Гэта ў нас памаліцца зазвычай...
А яна ўсё вядзе і вядзе
І ўсё некага кліча і кліча...

* * *

Ни дня без строчки…

*Запавет-заклік*
*Ю. Алешы*

...I ні радка, ні паўрадочка ў дзень,
I на душы — пустэльная сухмень:
Штодзённая, пакутная Сахара,
Бяссоннага маўчання злая кара...

А можа, літасць Божая зляцела,
Каб ахінуць ад балбатні злюцелай?
I не пяклуецца душа ліхім агнём:
З людзьмі жывеш па-людску дзень за днём,
I ні радка, ні паўрадочка ў дзень...
I з-за пляча — жыцця ці смерці цень?..

## КВАДРАКОЛА

Пастаўлю шклянку на Каран
З цукроваю, застойнай,—
Ратуй мяне, Алах, ад ран
З падмогаю Хрыстовай.

Ад ран, што ныюць у душы,
Бязвер'ем раскрамсанай,—
Я п'ю з шайтанам барышы
І з д'яблам — гэтаксама.

Ды хоць пазнаю ўсё да дна,
А тайна застаецца:
Хто і навошта раз'яднаў
Дарогі чалавецтва?

І што лічыць мне дарагім
Ці рассмяяцца толькі,
Калі Усход іграе гімн,
А Захад скача польку?

Як спалучыць з квадратам круг,
Каб везла квадракола
Зямной фурманкі вечны дух
І мой дагмат вясёлы?..

З чужых літанняў п'ю «ярша»
На д'ябальскім Сінаі,
А ці прададзена душа —
Яшчэ ніхто не знае!

Каран і Біблію прашу
Аб новым Звеставанні:
Не разрывайце мне душу,
Пакутную ў нязнанні.

Хоць абіваюць мой парог
З усёй зямлі хімеры:
Адзін сусвет, адзін і Бог —
Я толькі ў гэта веру.

* * *

Дэмакраты — эпохі дамкраты —
Падстаўляюць плячо пад гісторыю,
Сцелюць славу на шлях, як вату,
І на слова хранічна хворыя.

Думу думаюць аб народзе
Думакраты — трыбун аратыя:
Не аб хлебе, а ўсё — аб свабодзе,—
Азірнуцца — а дума за кратамі...
І няўцям, што сабе вяшчуюць
Пахавальнае слова пахвальнае,
Што і слухаюць іх і чуюць
Толькі сцены і дурні банальныя.

І чакае прарока Айчына,—
Прыйдзе ён, народам паклікаюць,
Каб на тле, дзе маною лячылі,
Узрастала праўда вялікая.

## ШЛЯХ

Як дыханне: удых і выдых,
Так жыццё: нараджэнне і смерць.
І ні будняў, ні святаў абрыдлых:
Над імгненнем — нябыту смерч.

І нікому з жывых не дачуцца,
Што свабода вышэй быцця.
І што шлях ад жыцця прачнуцца —
Гэта шлях пайсці ад жыцця.

Шлях туды, дзе раскутыя сілы
Ад пакутнай ляцяць зямлі...
...Вы ж пайшлі ад свежай магілы,
Як ад смерці сваёй уцяклі...

* * *

Дзе жаўранак — песня нагорная,
Дзе ластаўка — птушка саборная,—
Там побач, амаль што надворная,
Варона — прарочыца чорная.

Дзе неба — азёрнаю казкаю,
Дзе травы — зялёнаю ласкаю,—
Там хмара — прыблуда нянаская —
Пакровам смяротным запляскала.

Дзе поле — як Біблія вечная
Быцця і жыцця чалавечага,—
Там шэпча дарога сустрэчная
Замову апошняга вечара.

Дзе пушчы адорвалі сілаю,
Дзе ветры займаліся крыламі,—
Там сёння над роднай магілаю
Душа мая кружыць астылая.

## РАНЕЙ І ЦЯПЕР...

Як раней былі ў нас начальнікі:
То маўчальнікі, то велічальнікі,
То маленькіх людзей павучальнікі,
То вялікіх ідэй вызначальнікі...

А цяпер пайшлі ўсё начальнікі —
Дэмакратыі выручальнікі,
Партакратыі вымятальнікі,
За саміх сябе паручальнікі,
Для сябе прывілеяў вяртальнікі,
Самі самасабевяшчальнікі,
За народ — мікрафонаў глытальнікі...

**ЗУСІМ НЯДАЎНА...**

Зусім нядаўна ж тут балота
Цецеручынае гуло,
І зоркі мёд насілі ў соты,
І ўлетку зімаў не было.

Зусім нядаўна ж тут чарніцы,
Як чараўніцы, ў лес вялі...
Зусім нядаўна — бліскавіцай
Счарніў Чарнобыль паўзямлі...

* * *

Чым бегчы на заморскі хлеб упрочкі
І сыценька народу спачуваць,
То лепш — адна сарочка да пупочка
І з вераб'ямі пад страхою начаваць...

## НАСТАЛЬГІЯ

Такія насталі дні —
Настальгіі ветах духоўны:
«Божа, цара вярні»,
Як — «Божа, цара ахоўвай..

* * *

Калі мора накоціцца да гораў у госці,
Калі зоры прашэпчуць забытае штосьці,
Калі зрушыцца неба з падвалін сусветных
І планета дыхне небыццём апраметным,—
Зноў зярнятка тады, што маўчала вякамі,
Скажа, кволым штуршком прабіваючы
камень,
Словы боскія: «Тайна сия велика есть...»

* * *

Ці сэрцам нелюдзею,
Ці старасць на плячы
Сядзіць ахаладзела,
Як жаба на карчы.

Ні жарты, ні суцешкі,
Што ісціна ў віне,
Ні веснавыя ўсмешкі —
Не радуюць мяне.

Ды на салоўкі пошчак
Суцеха ёсць адна:
Шчаслівым не зайздрошчу —
Дапіце ўсё да дна!

Душу вам не заснежу
Самотаю сваёй.
І што вясне належыць —
Хай застаецца ёй!

А мне — цяпер — не потым —
Ад вашых пірагоў
Кавалак адзіноты
Адрэжце,— і ўсяго...

## ТЭЛЕБІРЖА

Экранныя, убогія,
Душою даўганогія,
А целам звар'яцелыя,
Мадэлі распацелыя
Тавар свой прапануюць.

Пакупнікі лінуюць
На клетачкі паперу
(Нібы рыхтуюць краты),
Каб выставіць дзяўчатам
Адзнакі за манеры,
За бюст і за натуру,
За міні-фурнітуру...

І з мляўкаю гарчынкай
Смакуюць секс-начынку
Футбольныя балельшчыкі
Ад Нарачы да Лельчыцаў.
І з масаю крытычнаю
Напору эратычнага
Рагоча бравы прапаршчык —
Прыпаршчык душ салдацкіх:
— На пляц такія б «лапушкі» —
Маршыравалі б хвацка!..

* * *

І ніхто не ўгадае,
якім яго будзе жыццё,
І ніхто не прадбачыць,
якою аб'явіцца смерць:
Вы, хто ў мяккіх пуховіках
ноч лежыцё
І хто кідае плоць
на бетонную цвердзь...
Кажуць, толькі аднойчы
святло адкрыцця
Азарае душу —
небыццём назаўжды:
праз вякі —
Знай усё! —
Ды тады ўжо не будзе жыцця,—
Хто гатовы зрабіцца
правідцам такім?

## ПТУШКА

Ні пра гняздо, ні пра дзяцей,
Ні пра сябе турботаў,
І з выраем — няма прасцей:
Паўметра пералёту.

З кутка ў куток — дзе небакрай
З рашоткаю жалезнай...
Валляк уволю набівай,
Таўчы, каб толькі ўлезла.

І зімы тут, і вёсны тут,
І песенька пяецца
Пра невядомасці прысуд,
Што гэты рай — у клетцы...

## БАРАЦЬБА

Была барацьба класавая,
Цяпер — барацьба касавая.

Адна касою касіла
Буржуяў нячыстую сілу.

Другая — косіцца вокам
На касу буржуяў далёкіх —
На амерыканскага спонсара,
На бізнес-гейшу японскую...

Перад сусветнай касаю
З працягнутай рукою
Стаіць барацьба класавая...

Вечнага ёй супакою...

## У ЭЛЕКТРЫЧЦЫ

Изменит прадедам Кавказ...
*А. С. Пушкін*

Кракталі шпалы электрычцы наўздагон:
За Хмелеўкай — Зялёнае, Крыжоўка...
Ля Ратамкі каўказец у вагон
Зайшоў з працягнутай папахаю пажоўклай.

Сівы, але з паставай — як страла,
З надломленай арлінкай у паглядзе...
За кволенькім унучыкам плыла
Смушковая скарбонка па міжраддзі...
Каўказ, Каўказ! — Хто вышыню схіліў,
Хто распластаў нічком твае вяршыні?
Хто гонар твой, якой цаной, калі
Паслаў жабрацкім вымяраць аршынам?..

Арол, сарваны з горнага гнязда,
Нябёс паўдзённых вышыню праносіць,
І каб унук малы не галадаў,
Па-бежанску падаць, хто можа, просіць...

Вагон, нібы разгневаны, хістаў
Счарсцвелых душы, каб шчырэлі ў ласцы...
Рублёвы «зайчык» беларускі з-пад куста
Скакаў у шапку гордую каўказца...

## ПА-БЕЛАРУСКУ...

Дагэтуль носім той ганебны комплекс,
Гняце непаўнацэннасці сіндром:
Маскоўскі градус і разліў маскоўскі —
Ад космасу да нарыхтоўкі дроў...

Не з Белай вежы, а з Крамлёўскай вежы
Глядзець на свет прывучаныя мы.
Трымаемся адно маскоўскіх сцежак,
А ад сваіх бяжым, як ад чумы.

Блукаем па гісторыі няўцямна:
Ліцвіны, зрэшты, мы ці маскалі?
І плачам: ці не іншапланецяне
Падладзілі нам смехам Віскулі?..

Нібы з Масквою, з вёскаю пушчанскай
Аднойчы сам Нью-Ёрк загаварыў,
І нам на галаву, як на няшчасце,
Упалі незалежнасці дары...

Што з ёй рабіць нам на дарозе коўзкай,
Дзе мусіш сам апірышча шукаць?
І зноў сіндром загаварыў маскоўскі:
Куды мы ў свет? — Давай Маскву гукаць!..

Партыйны комплекс і ваенны комплекс...
І ўжо не знаеш: свой альбо не свой
Ну гэты самы, твой, мужчынскі, компас,—
Усё скамплексавалася з Масквой...

Зноў бюракрат з маскоўскаю начынкай
Даводзіць, як схавацца за Крамлём,
І талерантна на сваю Айчыну
Па-беларуску дружна мы плюём!..

* * *

Сказаў усявышні з падтэкстам:
«Пладзіцеся і размнажайцеся...»
А мы ўсё назвалі сексам,
Штукуем жанчын, як ружанчыкі.

І экс-каханак раўнівы,
І секс-камікадзе шалёны
Адну засяваюць ніву
І Богу не шлюць праклёнаў.

І поўны вялікага сэнсу
Наш тэкст, што грахоўна друкуем:
Няхай ён завецца сексам —
Ды боскую справу ратуе!..

## АПОШНІ РАССТРЭЛ

Трапічныя кветкі,
трагічныя кветкі,
Падаюць на тратуар,—
Натоўпік рэдкі,
дзве-тры суседкі,
І ў неба твар —
камісар.

Тумба —
дзве даты —
прозвішча ката,—
І грозна праносіць рука
Палец гарбаты,
у мёртвага зняты
Са спускавога кручка...

## ЧАРТАРНЫ РЭЙС

Ляцяць перакупшчыкі чартарам
з Мінска ажно ў Пекін,
Ляцяць з вясёлаю чаркаю:
Лыкні — і Богу падкінь!..

Мяшэчнікі ды баульшчыкі,
Тарбешнікі-гандляры, —
Ад сытасці ўласнай аж булькаюць
Прылаўкаў пустых ваяры.

І коштам іх, у падсуседзях,
Ляціць у Кітай наш прэм'ер,
Таксама чарачку цэдзіць
На дыпламатычны манер.

Якія арыенціры
Бярэ ў паднябессі пілот:
Ці трагікі, ці саціры
На борце ў яго,— ці народ?

Дзе маса гандлярская тлумна
Качаецца, як іртуць,
Якія высокія думы
Дзяржаўнага мужа гнятуць?

Перад гісторыяй Полацка,
Славай князёў Літвы,—
Цемечка, мудрае полечка
Беднай маёй галавы...

Што мовіў бы князь Чартарыйскі
Пра гэты чартарны рэйс?..
...Як велічы ўладнай агрызкі,
Хавае паперы кейс...

* * *

Даследую святло:
! Чаму яго ноччу так мала?
А помніш, як светла было,
Як сонечна ноч палыхала!..

Калі адгарэла, зайшло
Якою чорнаю зоркай?
Няўжо яно не зберагло
Праменьчык для старасці горкай?..

## У ЧАРЗЕ

Прабачце, хлопцы з лагернаю метай:
Я не дарос да нумара таго.
Ды лічбу магазінная кабета
Накрэсліла і мне — з маёй чаргой.

Яна ўзяла руку, нібы цыганка
Сабралася пра лёс павараажыць,—
А вочы — ад прылаўка і да ганка —
Пяклуюцца: ці доўга буду жыць?..

Глядзіць на даланю маю і піша,
Дзе лінія жыцця свой крэсліць ход,
А я смяюся: «Мяса во не ў лішак,
То з Божай ласкі пражыву сто год!»

«67»...— І сталася: «Апошні!..» —
Гукнула прадаўшчыца, як прысуд...
Захваляваўся, зашумеў, забожкаў
Безнумарны, як безнадзейны, люд.

Зрабілася і сорамна, і прыкра,
Як вінаватаму за што, як штрафніку,—
І я цераз натоўп і галас крыкнуў:
— Вам, бабка, аддаю сваю руку!..

* * *

Разважанасць і размеранасць,
Музычная стройнасць формул,—
Ды салаўінае: «Верую»
Ўзрывае мёртвыя нормы!

Так чыстага розуму досведы
Граняцца на зломах вар'яцтва,—
Як цьмяна вястуе досвітак,
Што ў промні сусветы раяцца.

* * *

З нікчэмнасці ці з велічы сваёй —
Хто асудзіць, хто ўзважыць мае права?! —
Узводжу свет над гэтаю зямлёй,—
Тут я цару́ю, тут мая дзяржава!

Я выклікаю словы з небыцця,—
І раптам, і адкуль яны бяруцца?
І гэтых помыслаў, і гэтага жыцця
Стварыць не могуць сотні рэвалюцый!..

## ЧЫТАЧЫ «СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ»...

Чытачы «Советской Белоруссии»,
Рэзалюцый заімшэлы плён,—
Гэта самі вы сябе прымусілі
Ці такі нячысціка праклён:

Так трымацца за рыззё збуцвелае
І адозвы мёртвыя сцвярджаць,
Невуцтва прыспаўшы заімшэлае,
Мовай беларускай пагарджаць.

Хто вы, каб з прарочаю закускаю
На хаўтурах нашых выпіваць,
Есці хлеб і сала беларускае
І на беларушчыну пляваць?

Скуль вы, самазваныя настаўнікі,
Узяліся на маёй зямлі,
Скуллем селі — сталінцы і сталінкі,—
Высеўкі эпохі, бабылі?

Колькі вам адпушчана гісторыяй,
Колькі лёсам вызначана жыць,
Засланіўшы даляглядзы шорамі,
Маскаю газетнай паранджы?..

Чытачы «Советской Белоруссии»,—
Паласа газеты, як з брані...
Свет стары,— на ім, нібы на бруствере,
Вы залеглі — стан свой бараніць...

* * *

з веку ў век з дабрачыннаю мінай
Нам святыні дакляравалі,
На палях крывавых — як міны —
Урны з прахам бездомным хавалі.
А назаўтра крычалі: «Свята
Вам даём, бо святы той попел!»
Нам багоў прыводзілі ў хату
І стаўлялі — жывых — на покуць.
Збіта ўсё гадоў капытамі,—
Дзе шагалы, а дзе шакалы?..
А ў цябе, зямля, запыталі,
Што чакала ты, што шукала?
Шматпудовыя камяні
Клалі плошчам старым на грудзі:
Той, хто нашы ірваў карані,
Тут, казалі, помнікам будзе...
Нас хапалі ў абдымкі рукой,
Па-сяброўску доўгай — да шыі,
Падсявалі ў душы куколь,
Міні-сукні для плоці шылі...
Мы ім самі клалі масты,
Забівалі на рэчках палі,
І над крэўным чынілі пасты,
І за крокам крок адступалі...
Толькі помнілі: ёсць рубяжы,
За якія няма адыходу.
Немагчыма бязмоўнаму жыць,
Немагчыма звацца народам.
І маўчанне — не згоды знак,
Песня родная ў сэрцы не згасла.
На стале — каравай ці праснак —
Толькі свой — нібы сонца — ясны.
І не стрэчнаму-папярэчнаму
З нашай нівы збіраць умалот.
І святыні — не даўгавечныя,
Калі ім не маліўся народ.

* * *

Памяці Сямёна Гейчанкі, стваральніка і шматгадовага рупліўца і захавальніка Пушкінскага запаведніка ў Міхайлаўскім

Адышоў у нябёсы Гейчанка —
Ад нас, ад грэшнай зямлі,
Узмахнуўшы крылом адсечаным,—
Каб мы крылата жылі.

У труну легла цела збалелае,
Бо на раскрыжаванне цвікі,
На акопных грудах сыржавелыя,
Не знайшлі другое рукі.

Святагор'я заслона апушчана,
Сірацее алея Керн.
Адлятае душа да Пушкіна,
Да нязнаных касмічных сфер.

І на сцежках, дзе мудры Гейчанка
Быў з травінкаю кожнай на «ты»,
Захліпаюцца свечак агеньчыкі
Перад пушкінскім сонцам святым.

Ля труны — і зладзеі, і геніі —
Як на міні-Страшным Судзе...
Сустракай, Аляксандр Сяргеевіч:
Твой анёл-зберагальнік ідзе.

## СЯДЖУ Ў ГОРАДЗЕ

Там
      вее густой медуніцай
з прапараных балацявін,
Бяжыць да крыніцы напіцца
Аер, як зялёны паўлін.

На ўгрэўных палях палавеюць
Вусатыя ячмяні,
У кветках п'янеюць і млеюць
Крылатыя бомы — чмялі.

Дзе гойсае конь раскілзаны,
Крычыць перапёлка ў аўсе…

А тут во
            Гамер непрызнаны
Шклатару здаваць нясе…

**І НЕ РАЗВІТАЛІСЯ...**

Лецейка шырокае,
Высокае сонейка,
Дзе вы адгалёкалі,
За якім сасоннікам?
За якую пушчу вы
З'ехалі-схаваліся
На вятрах раз'юшаных
І не развіталіся?..

## «ОЙЧА НАШ…»

Мама «Ойча наш...» прамаўляла
І вучыла ксціцца мяне,—
Больш малітваў мама не знала,—
З той, адной, быць і мне ў труне.

Слоў для Бога не трэба многа,
З Богам лепш не крычаць — памаўчаць.
«Ойча наш...» — мая засцярога,
Калі д'яблы ўвушшу верашчаць.

«Ойча наш...» — ці ў грымотах дарога,
Ці ў чарнобыльскай мляўкай цішы,—
«Ойча наш...» — я прашу толькі ў Бога
Хлеба і ўратавання душы.

Я ў сваіх універсітэтах
Не спазнаў да неба шляхоў,—
Ды здагадку меў, што ў Сусветах
«Ойча наш...» — мой надзейны схоў.

«Ойча наш...» — тыя вочы-пытанні,
Што на покуці ў нас жылі,
Мне і сёння адказ патайны
Абяцаюць, ды не на зямлі...

## ВАЛУНЫ

Дзеці жвірыстых выдмаў —
Валуны і каменне,—
Ледавік вас раскідваў
Падталаю жменяй.

Цар над мацерыкамі,
Тут ён гнёт супакоіў,
Бо зямля ў нас такая
І сонца такое.

Там, дзе ляда і поле,—
Гор крамяністы высеў,—
Як нядоля і доля,
Вы з намі зрасліся.

У лясах воі з коп'ямі
Вам таемна маліліся.
Вас клялі і выкопвалі,
Дзе нарогі тупіліся.

Вас кувалдамі сваталі,
Вас цягалі да крушняў,
Вы ў падмурках пад хатамі
Лежыцё непарушна.

Клалі вас у аснову
І да злыдняў прылічвалі,—
Валуны — нашай мовы
Зацвярдзелыя зычныя.
Кунакі вы Эльбрусу,
Хоць з паўночнае пашы,—
Вы душой — беларусы,
Вы з характарам нашым!

**ДА ПЫТАННЯ**
**АБ «ТВОРЧАЙ**
**ЛАБАРАТОРЫІ»**

Строфы «чарговыя»
І «электравершы»:
У чарзе выхоўваю,
Электрычкай цешу.

Замаўляю,
Забаўляю
Булкаю сітнай.
Заручаю,
Прывучаю
Да сучасных рытмаў...

Толькі б не разбегліся...—
Бо й самому нехаць
З пасажырскай безліччу
І па чэргах лэхаць...

## ВАКХІЧНАЯ ПЕСНЯ

Змеявік трашчыць з перанапругі
Ў бровары лясным з вясковым паем,
Індустрыя тэмпы і паслугі
Сведчыць,— а яе ўсё не хапае!..

На душу адводзіцца бутэлька —
Ды на месяц, ды яшчэ па спіску! —
А ў душы патрэба — хоць не велька —
Не кладзецца ў нормы ані блізка.
Кількаю закусваем няхітрай,
Рукавом, як воўк галодны лыкам,—
Колькі выпіваем дэкалітраў,
Каб злічыць, саб'ешся з панталыку...

П'ём па службе, п'ём па абавязку,
П'ём па дружбе з сябрам неразводным,
Узнімаем тосты «для падмазкі»
І прымаем з гэткае ж нагоды.

Ёсць сямейны, ну, сказаць, легальны,
Мірны спосаб — што-небудзь адзначыць:
Імяніны ці адгулак дальні,
Поспех замачыць альбо няўдачу...

Ды і так за гальштук ці за шалік
Возьмеш за гамонкай у суседа,—
Што там шкалік —
                                        шклянка не зашкаліць
Стрэлку на манометры бяседы!..

Жлукчам, цэдзім, глушым, асушаем,
Смокчам, цягнем, хлешчам, уразаем...

А яе, хоць трэсні, не хапае —
Быццам хтосьці ў Нарач вылівае...

## МЯККІ ЗНАК

Людзі заўважалі тую сілу:
На пажары баба
ратаваць
З лямантам цягнула матавіла,
Кубел з пражай кінуўшы згараць...

Супраць бабы не скажу нічога,
Толькі неадступна, як на грэх,
Увушшу свіргоча д'яблаў рогат:
«Як пісаць вам слова: «снег» ці «сьнег»?»
Ну а мы, каб напісаць — дый годзе:
«Сьнег» ды «сьмех»...— давай дыскутаваць
Пры глухім, зняверанымм народзе:
Мяккі знак вяртаць ці не вяртаць...

На вучоных зборышчах двайную
Норму акадэмікі даюць...
Можа, мяккі знак і адваюем,
Ды і той зладзеі адбяруць —

Разам з мовай... А ўзамен — нямому
Гэты цёмны і бяздомны зброд
Паднясе дзяржаўны дар «двухмоўя»:
Быў народ — а будзе паліглот!..

І над мовай дзьмухаюць кадзілам,
Правяць пахавальную імшу,
Ну а мы — выносім матавіла,
Калі трэба ратаваць душу...

## ЗОНА

Аралі эпоху нарогамі
Насілля, ратуючы свет:
Зона рэжыму строгага —
Найпершы быў запавет.

Усё азначалася зонамі:
Зона працоўнага дня,
І адпачынку сезоннага,
І зона: чым дыша радня...

З'явілася ў нас і асобая —
Няхай пазайздросціць зямля! —
Чорная зона Чарнобыля,
Плён інтэлектабылля...

А сёння, на выдумку скорыя,
Мы новы агорваем плён:
Сёння растуць мухаморамі
Фундатары новых зон.

З учэпістай хваткай нязменнаю
Ашчадцы партыйных кас
Паходжваюць бізнесменамі
На фоне жабрацкіх мас.

Партбосы і кадэбэшнікі,
Былыя ахоўнікі зон —
Сённяшнія «падсябешнікі» —
Бяруць камерцыйны разгон.

Былыя «святыні» аплёўваюць,
Даляры ў кішэню грабуць,
І едуць у зону рублёвую,
Імперскую ўзняўшы трубу.

Зона свабоднага бізнесу,
Зона свабодных муз,
З культурай — у зоне зблізімся,
А зона — Савецкі Саюз.

І зона дзірак азонавых
З міжзор'яў касмічных Крамля...

Калі ж перастанеш быць зонаю,
Пакутная наша зямля?..

* * *

Хутка восень: зоры буйнеюць,
І драбнеюць дажджы, і туман
Вее тлом... Ды не верыцца неяк,
Што і лета было як абман...

Што дарма красаваліся кветкі,
Што бязмэтна ліўні гулі,
І што лёс — безнадзейна і рэдка —
Светлы быў на гэтай зямлі...

Не згаджаецца сэрца з тугою,
Не прымае астыласці знак,
Яшчэ сонца адною нагою
Дзесьці ў ліпені, можа,— аднак...

Можна выкрасліць дзень заімглёны,
Ды з якіх гэта, браце, прычын
Разгараюцца барвы на клёнах,
І згасаюць усмешкі жанчын?..

* * *

Сутнасць трываласці,
сутнасць жывучасці
Вы без адной не бываеце
сутнасці,
Вы без адной не бываеце
маласці:
Каб і трываласць
і сутнасць
трымалася,
Трэба,
Каб сэрца
Ў грудзях
Не зламалася.

* * *

Начная даніна і дніна:
Учэпіста одум гняце —
Прыгоннік, нязменны, адзіны,—
Сядзіць на чырвоным куце.

Усё забірае дазвання,
А я тым жыву і пяю,
Што згубцу — шчаслівейшы даннік!
Пакутна жыццё аддаю.

* * *

Мала мазоліцца
Думак падзоліцай,
Мала няволіцца:
Мала ўсё, мала ўсё,—

Можа, маленечкай хопіць дэталі:
Каб у вачах па смяшынцы купалася
І каб за пазухай птушкі спявалі?..

* * *

Калі ўжо апраўдаць сваю прысутнасць
На гэтым свеце не змагу нічым:
Ні песняй, ні каханнем,— хоць на суткі
Я ў Бога ўкраду ад жыцця ключы.

Ён не пакрыўдзіцца, ён зразумее, пэўна,—
Я не таму, каб ратавацца,— не:
Мне трэба толькі там пабыць — у спеўнай,
Прынацкай — не прымацкай — старане.

Я столькі ўзяў і з той зямлі, і з неба,
Што трэба мне, каб не параніць іх,
Вярнуць усё: аддаць назад ім трэба
Маё дыханне, памяць, зрок і слых...

# З М Е С Т

«Танцаваў залаты жураве ль…»
«У тое лета чад гарачыні…»
Хлопчыку, якому споўнілася тры гады
«З пункта А і да пункта Б…»
«Вы хочаце мёртвай прасторы…»
«Хоць я не Бог, я вам даю свабоду…»
«Як жа без Расеі…»
«Лёс чорны, як Малевіча квадрат…»
«Няма цэнзуры, ды ёсць цэзура…»
Трое
«Аз», «букі» і «ведзі»…»
Рыфмуючы сонца…
«А што ў цябе, бяроза, на сняданак?..»
Прыкмета
Гарадскі матыў
«Калі загаварылі пра закон…»
«Я слухаю моўчкі зямлю…»
«Ільвы з чалавечымі тварамі…»
«На праспекце — фасад у фасад…» ——
«Хлапчук маленькі нацянькі…»
«На полі, як сусвет…»
«Ну, вырвуся на дзень які ці два!..»
Міма муміі…
Разняволеныя
На развітанне?..
Калядны эцюд
«Я пасвіў гусей…»
Закон пастаянства
Карані
«Ці ёсць і ці водзяцца ў нас філосафы?..»
«Праз ноч — без адзінае лямпы…»
«Я здрадных не баюся нератоў…»
Кансерватызм
Эцюд з набярэжнай скалы
Дэфіцыт
Калі гукне…
«Момант удачы…»
Прадвесне
«Які, скажыце, ідэал…»
«Новыя цэны, каштоўнасці новыя…»
«Цікава ўсё ж зірнуць…»
«Дзе разнатраўя шугалі рэкі…»
«Ну вось і збываецца мара паэта…»

Пераможца
«Перапёлка ў жыце…»
«Лістапад-прадзімнік…»
«Са мной заўжды таварышы мае…»
«Адабраны мой край…»
«Разарвуцца сутак абручы…»
«Як гэта музыка без слоў...»
«Пахне, пахне — чалавечым духам…»
«Моцныя, халодныя нарогі…»
«Анёлаў бяскрылых стрэс…»
«Калі дзень першы тварэння…»
«Публіцысты лірыкаў, як заедзь…»
«Дагарае на ветры мая залатая дуброва…»
Няўжо…
Аўтатрэнінг
«Сядзіць у касцях — як закон…»
«Былое — не бывае…»
«Хто мы і дзе мы — без мовы і маці?..»
«То балет класічны, то сімфонія…»
Запіс у Кнігу водгукаў Масандраўскага віназбору ў Крыме
«Не спяшайся, той дзень, калі стану...»
«З лесам, як і з гарамі…»
«Хлопчык на парваным фотаздымку…»
«Душа заснула і маўчыць…»
«Якія даты ў канверце…»
«Кажуць, на развітанне з мінулым…»
Прабачэнне
«Паэзіі штучная глеба…»
«Зноў — насуперак календарам…»
«Вачыма памяці глядзім…»
«Такая рэвалюцыя была ўжо…»
А мог бы…
«Разрывалі душу на часткі…»
Сорак дзён…
«Жыццё — загадка, жыццё — іспыт...»
«Калі б не гэты спічасты гмах…»
«Мала яшчэ памерці…»
13.XI.92
«Згублены арыенціры…»
«Амфітэатра кола…»
Мелодыя бульбянай баразны
«Хоць на пясок размяліся сыпучы…»
«Рэвалюцыйнае чырвонае»
У Акадэміі навук...

Вясельны сюжэт
З «Дзіцячага сшытка»
Наадварот…
Надпіс на межавым знаку «1999—2000»
Вестка
«Ганяюць кур'ераў чэрці…»
Госці-ўспаміны…
Дарога
«…І ні радка, ні паўрадочка ў дзень…»
Квадракола
«Дэмакраты — эпохі дамкраты…»
Шлях
«Дзе жаўранак — песня нагорная…»
Раней і цяпер…
Зусім нядаўна…
«Чым бегчы на заморскі хлеб упрочкі…»
Настальгія
«Калі мора накоціцца да гораў у госці…»
«Ці сэрцам нелюдзею…»
Тэлебіржа
«І ніхто не ўгадае…»
Птушка
Барацьба
У электрычцы
Па-беларуску…
«Сказаў усявышні з падтэкстам…»
Апошні расстрэл
Чартарны рэйс
«Даследую святло…»
У чарзе
«Развважанасць і размеранасць...»
«З нікчэмнасці ці з велічы сваёй…»
Чытачы «Советской Белоруссии»...
«З веку ў век з дабрачыннаю мінай…»
«Адышоў у нябёсы Гейчанка…»
Сяджу ў горадзе
І не развіталіся...
«Ойча наш…»
Валуны
Да пытання аб «творчай лабараторыі»
Вакхічная песня
Мяккі знак
Зона
«Хутка восень: зоры буйнеюць…»
«Сутнасць трываласці…»

«Начная даніна і дніна...»
Можа...
«Калі ўжо апраўдаць сваю прысутнасць...»

Зуёнак В.

Пісьмы з гэтага свету: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1995.— 174 с.

ISBN 5-340-01402-9.

Напэўна ж, нечаканым, сенсацыйным было б вызначэнне: «Пісьмы з таго свету»... А з гэтага? З нашага, будзённага, мітуслівага, няпэўнага, задыханага? О, колькі тут узнікае — невытлумачальнага здаровым сэнсам, ірацыянальнага,— бывае: тэатр абсурду, дый годзе... Старонкі новай кнігі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Васіля Зуёнка, паэтычна засведчаныя ў гэтых «пісьмах», нясуць чытачу знак часу, пакліканы да жыцця пошукам духоўных шляхоў. Вершы паэта, пры ўсёй складанасці настрояў,прасветлены ўсё ж верай у чалавека, у родную краіну Беларусь.